# Самапомач Samapomach

Беларуская кооператыўна-гаспадарчая часопісь

Год V. | Вільня, Травень 1936 г. | № 5.


*Хай злыдні над намі,
скрыгочуць зубамі
Любі сваю ніву, свой
край,
І, колькі ёсьць сілы,
да самай магілы
Ары, барануй,
засявай!.*

ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачу.*

*Джордж РЭССЭЛЬ
(Ірляндзец).*



## ЗЬМЕСТ №5 (46).



## Ceny ŭ Vilni

*19.V.36. Ceny za 100 kilohram.*

**Zbožža.**

| | |
|---|---|
| **Žyta** | 13.25—14.00 |
| **Pšanica** | 19.50 - 21.00 |
| **Jačmień na pansak** | 14 00 —15 00 |
| **Avios** | 14.00—15 25 |
| **Hračycha** | |
| **Muka pšaničnaja** | 22.25 35.50 |
| **Muka žytniaja da 50%** | 20.25 - 23 25 |
| **Muka razovaja da 95%** | 16.50—17.00 |
| **Votruby pšaničnyja** | 12.00—12 50 |
| **Votruby žytnija** | 12 00—12.50 |
| **Vika** | 17.00—18.00 |
| **Haroch šery** | 12.25 12 75 |
| **Łubin sini** | 9 00—9.50 |

**Małočnaje za 1 kilo (14.V 36)**

| | |
|---|---|
| **Masła najlepšaje, I. sort za kil. ŭ hur.** | 2.40—2 50 |
| **„ „ „ „ „ u detalu** | —2 80 |
| **Masła stałovaje II sort za kilo ŭ hurcie** | 2.15—2.25 |
| **„ „ „ „ „ u detalu** | —2.60 |
| **Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie** | 1 50—2.20 |
| **„ „ „ „ u detalu** | 1.80—2.60 |
| **Syr ementalski(švajc.)za kilo ŭ hurcie** | 2.55—2.60 |
| **„ „ „ „ „ u detalu** | —3.20 |
| **Jajki, kapa** | 2.40—3.00 |
| **„ za štuku** | $4^1/_2$—6 hraš. |

## Наша пошта.

К—ва „С—помач" у В. Л.: Жаданыя 100 экз. „Самапомачы" і 2 экз. „Для бліжніх" пасылаем. Разьлічымся за ўсё разам.

К—ва „Е—сьць" у Р.: трудна, прыйдзецца плаціць. Трэба было дапільнаваць срок. І наагул будзьце на будучыню больш уважны. — Сяброўскія кніжкі беларускія ёсьць і Вы іх можаце дастаць хоцьбы праз нашу рэдакцыю. — Аб варунках падпіскі „Самапомачы" даведаецеся з самага часапісу: на год за адзін экз. — 3 зл., за 10 экз. — 12 зл.

П. Рамановіч: дапушчэньні Вашы аб прычынах неатрыманьня часапісу нашага сапраўды дзіўныя і адзіныя ў сваім родзе. Ці-ж нам не залежыць на тым, каб часапіс даходзіў да адрэсата?... Прычыну трэба шукаць у іншым месцы.

(Далейшы цяг на 3 бач. вокл.).

BIEŁARUSKI KOOPERATYŬNA - HASPADARSKI ČASAPIS.

# Samapomač

# Самапомач

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

| Hod V. | Vilnia, Travień 1936 h. | Nr. 5 (46). |
|---|---|---|

## *Kooperatyŭna-haspadarskija naviny.*

**Novy zakon ab małačarniach.** Ŭ № 35 „Dziennika Ustaw“ z dnia 6 traŭnia siol. apublikavany novy zakon ab małačarniach. Zakon hety ŭ svaim pieršapačatnym prajekcie ŭzaležnivaŭ usie małačarni ad Ziemlarobskich Pałataŭ, čym vielmi ahraničvaŭ dziejnaść małačarstva kooperatyŭnaha. U akančalnaj formie adnak samyja vostryja kanty prajektu byli ściorty. Charakterna pry hetym, što, pavodle hazet, „kanty“ hetyja zmušany byŭ ścirać tahočasny premjer ministraŭ, tady jak najvyšejšy aficyjalny orhan kooperacyi, „Kooperatyŭnaja Rada“, prajekt hety blizu adnahałosna była paćvierdziła. Hetulki što da historyi hetaha zakonu. Što da źmiestu zakonu dyk datyča jon: małačarniaŭ, źliŭnych punktaŭ małočnych i śmiatannych, maślarniaŭ, syravarniaŭ i bryndzarniaŭ.*) Arhanizacyja małačarstva ahułam addajecca Ziemlarobskim Pałatam, jakija adnak u adnošańni da pradpryjemstvaŭ kooperatyŭnych buduć apiracca na pastanovach kooperatyŭnych revizyjnych sajuzaŭ. Zakon uchodzić u siłu praz try miesiacy, h. zn. 6 žniŭnia siol. i praz 6 miesiacaŭ ad hetaha času, h. zn. da 6 lutaha 1937 h., usie małačarskija pradpryjemstvy musiać pierarejestravacca ŭ Zieml. Pałatach. Pry pierarejestracyi asnaŭnoj vymohaj jość adpaviednaja techničnaja abstanoŭka ŭ małačarni i fachovaja padhatoŭka małačara. Novyja małačarni, adčynianyja ŭ tym časie, kali novy zakon uvojdzie ŭ siłu, musiać być zarejestravanyja najdalej za tydzień ad času, kali małačarnia budzie puščana ŭ ruch. Tyja-ž, chto chočuć załažyć novuju małačarniu, musiać naŭpierad źviarnucca ŭ „Zieml. Pałatu“, kab jana vydała paśviedčańnie „celovości“ (patreby) novazakładanaj małačarni. Hetkaje paśviedčańnie Pałata vydaje ŭ praciahu adnaho miesiaca, naturalna, biaručy za heta apłatu. Ad usiakich pastanovaŭ Zieml. Pałaty možna adklikacca (žalicca) ŭ Ministerstva Ziemlarobstva.

**Uhodki „Społem'u“.** Sajuz polskich spažyvieckich kooperatyvaŭ „Społem!“ śviatkuje sioleta 25-yja ŭhodki svajho isnavańnia.— U hety sajuz zmušany byli, jak viedama, uvajšci i našy biełaruskija kooperatyvy paśla taho, jak byŭ źlikvidavany svoj sobski Sajuz Kooperatyvaŭ u Vilni.

*) bryndza — heta hatunak tvarahu z aviečaha małaka.

**Strachoŭka bydła.** U Vilenskuju Ziamlarobskuju Pałatu prysłany byŭ anahdaj z Ahulnaha Strachavoha Tavarystva — PZUW — prajekt strachoŭki bydła, naŭpierad dojnych karoŭ i jałavak, jakija končyli 6 miesiacaŭ vieku. Prajekt hety pradbača strachoŭku bydła ŭ takich miascovaściach, dzie isnujuć fachovyja ziemlarobskija arhanizacyi i małačarskija kooperatyvy. Pry hetkich arhanizacyjach prajekt pradbača arhanizavańnie strachavych Hurtkoŭ („kołaŭ“), katoryja svaim paradkam strachujucca **vysokaj** składkaj u Ahulnym Strachavym T-vie. — Pavodle hazetnych viestak, Ziemlarobskaja Pałata naahuł adniesłasia da prajektu prychilna; chacieła-b tolki abšar dziejnaści strachavańnia ahraničyć da tych miascoŭ, dzie jość fachovyja arhanizacyi hadaŭlanyja, małočna-kantrolnyja, abo ŭrešcie kooperatyŭnyja małačarni. Z svajho boku Ziemlarobskaja Pałata źbiraje viestki, katoryja pazvolili-b aznačyć vyšyniu strachavych składak i inšych patrebnych da hetkaj strachoŭki dadzienych.

Da ŭsiaho hetaha dadać musim ad siabie, što strachoŭka — reč dobraja; ale, zdajecca nam, što nie z taho kanca pačali jaje rabić. Ci ž mała jość siahońnia „trupoŭ“ u našym haspadarskim pieradusim žyćci dziela taho tolki, što jany nakinieny byli źvierchu? Heta adna reč. A druhaja — Ahulnaje Strachavoje T-va (PZUW) za šmat dałosia ŭ znaki našamu sialanstvu pry dahetulašniaj strachoŭcy budynkaŭ, kab heta samaje sialanstva ŭzachvociłasia raptam da ŭprahańnia siabie ŭ ciažary novyja. — Ci-b nia možna było hetkaj strachoŭki arhanizavać na padstavach ścisłaje **dabravolnaści** i susiedzkaj **samapomačy?**

**Novyja haspadarskija placoŭki ŭ Vilenščynie.** Šyraka-viedamaje sadoŭnictva hr. Przezdzieckaha ŭ Varapajevie prystupaje da budavańnia fabryki fruktovych kanservaŭ. U vakolicy-ž vioski Kupa, nad vozieram Narač, arhanizujecca vendzarnia ryb, u pieršuju čarhu siłavy i miantuzoŭ.

**Devaluacyja savieckaha rubla.** Pavodle „Gaz. Handlovaj“, Saviecki Dziaržaŭny Bank pravioŭ novuju abnižku vartaści svajho rubla ŭ paraŭnańni z zołatam. I tak, kali dahetul cana adnaho grama zołata była 1 rub. 29 kap., dyk pavodle novaha parytetu cana 1 grama zołata padniałasia až na 5 rub. 63 kap. Inakš kažučy sam Saviecki Bank abnižyŭ vartaść svajho rubla ŭ 4 z pałovaj razy.

# Сельская гаспадарка.

## Не пасьля, але перад усім!

Пішу гэтыя радкі ў адказ і на размысьленьне тым нашым братом па плугу і касе, што будучы прыціснуты сучасным гаспадарскім крызысам, перш за ўсё хацелі-б падняць неяк сваю гаспадарку і пасьля толькі думаць аб патрэбах культуральных. Ці тудою дарога? Ці запраўды так быць павінна?

Каб гэта зразумець, трэба застанавіцца над тымі прычынамі, якія гэткае цьверджаньне родзяць. Вот-жа, найважнейшай такой прычынай ёсьць разуменьне культуры, як нечага, што добрае, калі яно ёсьць, але аднолькава добра можа быць, калі яго і ня будзе. Культура ў паняцьці такога чалавека гэта ня ёсьць нешта жыцьцёва патрэбнае, так як напр. яда, піцьцё, дыханьне, сон і г д., але гэта нешта збыткоўнае, надпатрэбнае, як напр. нейкая забава, выпіўка і іншы збытак. У ніякім выпадку аднак такі чалавек не прадстаўляе сабе культуры, як канешнай асновы ўсякага дабрабыту. І ў гэтым вось ляжыць корань зла, корань бяды, з якога для нясьведамага чалавека вырастаюць неправідловыя выснаўкі аб сапраўднай вартасьці культуры.

Як гэтаму радзіць?

Трэба ясна зразумець, што выжэй пададзены пагляд на культуру ёсьць нічым іншым, як падсьведамым астаткам нявольніцтва, з якім трэба змагацца так доўга, пакуль ён ня будзе жыўцом выпалены й заменены паняцьцем культуры новай, даступнай кожнаму чалавеку. Бяз гэтага культурныя здабыткі ў паняцьці „шэрага“ чалавека заўсяды будуць прыгожай краскай, якая можа цьвісьці толькі на „панскім“ полі. Перасаджваньне-ж гэтай краскі на грунт народны выдаецца „шэраму“ чалавеку і лішнім і непатрэбным. І на гэта няма іншай рады, як толькі само паняцьце культуры ўнародніць. Што гэта знача?

Культура народная вырастае з народу, і ні ў якім выпадку ня сьмее быць яму накідывана. Культура накіненая ня ёсьць культурай, а толькі больш ці менш гуманным (людзкім) падбоем людзкой адзінкі і цэлых грамадзтваў. Дзеля гэтага такое заганяньне нашай беларускай моладзі у чужыя арганізацыі пры помачы паліцыйных даносаў, як аб гэтым пісаў анагдай „Шлях Моладзі“ (№ 4), лічыць трэба праявай сумнага зьдзічэньня.

Ня ёсьць так-жа культурай сьляпое нападабліваньне розных блыскоткаў з жыцьця тэй клясы людзей, што агулам завецца „вышэйшай.“

Як „культура прымусу,“ так і „культура нападабляньня“ ёсьць ня толькі безкарыснай, але нават і шкоднай, бо замест выклікаць і разьвіваць цэнныя вартасьці ў народзе, палоняць і ломяць у ім людзкога духа. — Культура сапраўдная вырастае із нутра народу і таму яна мусіць быць ягонай роднай, нацыянальнай: немец мае культуру нямецкую, паляк — польскую, літовец— літоўскую і беларус тады толькі будзе сапраўды культурным, калі збудуе сваю сільную культуру нацыянальна — **беларускую**. Гэта варунак. Першы і канешны. Ніякі народ не адрадзіўся гаспадарча, будучы ў няволі куль-

## Kolektyvy jak kooperatyvy.

(2)

7. **Arhanizacyja i aceńvańnie pracy. Pracoŭnaja dyscyplina.** Usiu pracu ŭ kałhasie robiać siabry kałhasu sami. Najmać možna rabotnikaŭ specyjalistaŭ, jak ahranomaŭ, inžynieraŭ, technikaŭ i h. d. Sezonnych rabotnikaŭ možna najmać tolki ŭ haračy rabočy čas, abo na budovy.

Z siabroŭ kałhasu sastaŭlajucca družyny (abo bryhady) dla kožnaj raboty asobna. Družyny dla polnych rabot sastaŭlajucca najmienš na adzin hod. Kožnaj takoj polnaj družynie dajecca patrebny žyvy i niažyvy inventar, i vydzialajecca kavałak pola da pracy i miesca ŭ haspadarskim zabudavańni. — Družyny dziela hadavańnia j dahladu za žyviołaj sastaŭlajucca na čas najmienš troch hadoŭ. — U kožnaj družynie raździalaje pracu i joj kiruje družyńnik (bryhadzir).

Rabota ŭ arcieli (kałhasie) viadziecca na akord, heta znača praca takaja aceńvajecca nie pavodle taho, jak doŭha chto rabiŭ, ale pavodle taho, što jon zrabiŭ. Padrobna ŭsio heta pradbačana pracoŭnym rehulaminam, jaki apracoŭvaje i pryjmaje ahulny schod arcieli (kałhasu).

Praca vykananaja ŭ arcieli aceńvajecca nie ŭ hrašach, a ŭ pracadnioch. Na kožnuju pracu ŭstanoŭleny byvaje adpaviedny lik pracadzion, napr. na zaarańnie adnaho hektara ziamli, na absieŭ jaho, na poliva, na kapańnie bulby i h. d. Hetak sama i pry absłuhoŭvańni žyvioły. Kožnaja praca zapisvajecca ŭ asobnyja pracoŭnyja knižki. Uprava arcieli kožny miesiac sastaŭlaje śpiski adpracavanych pracadzion i vyviešvaje ich dziela samakantroli samych-ža siabraŭ arcieli. Hetkaja-ž hadavaja spravazdača pavinna być vyviešana najmienš za 14 dzion pierad ahulnym schodam. Tym družynam, jakija patrapili dasiahnuć bolšych rezultataŭ, čym heta pradbačana rehulaminam, vydajucca premji (naharody) ŭ vyšyni 10—15 prac. ahulnaj ličby pracadzion. Ale zatoje i za błahija rezultaty niezavinienyja pryrodaj arciel tracić

турнай. Ня іншымі законамі кіруецца і жыцьцё беларускае.

Дзеля гэтага абмылку вякікую робіць той, хто думае, што зьменіць закон жыцьця і трывала паправіць свой лёс, не збудаваўшы свае роднае культуры. Ніколі! Як усе народы, так і наш беларускі мусіць наўперад, а прынамся адначасна з будаваньнем жыцьця гаспадарчага, помніць і аб патрэбах культуральных.

Аб усім гэтым пішам сягоньня ў „Самапомачы" з дзьвюх аснаўных прычын. Першая: хочам зьвярнуць увагу нашых паважаных чытачоў — землеробаў на тое, каб больш цікавіліся і стараліся застасаваць у сваей гаспадарцы тыя ведамасьці, якія сягоньня можна здабыць з чытаньня гаспадарскіх часапісаў і кніжак. Ня ўсюды можна правесьці ўсе рады падаваныя ў газэтах. Але найбольшай абмылкай было-б неправдуманае пусканьне міма вушэй таго, што ў кнізе напісана.

Другая рэч — адбываецца цяпер у нас масавае дамаганьне роднае беларускае школы для беларускіх дзяцей. Справа гэта такжа павінна моцна абходзіць кожнага беларускага земляроба, бо свая родная школа гэты першы ступень да разбудовы роднае культуры.

Дык хай ня будзе між нашымі прынаймся чытачамі такіх, што чытаюць кніжку толькі „для забавы." А хто толькі мае дзіця ў школьным веку, хай канешна пастараецца сам і намовіць сваіх суседзяў дамагацца праўным парадкам свае роднае беларускае школы*). Культура — родная культура! — прад усім! С, Я—віч.

*) Па ўсякія інфармацыі ў школьнай справе зьвяртацца трэба паводле адрэсу: Szkolny Sekretarjat, Wilno, Królewska 3—8.

# Работы ў полі пасьля высаджваньня бульбы.

Калі кончыцца работа над пасадкай бульбы, трэба прыпомніць што трэба каля іх рабіць далей. Ужо наперад трэба прызадумацца, калі і як пабаранаваць, а далей —калі і як аборываць (абсыпаць).

Хто хоча адказаць на гэтыя пытаньні і добра пасьля выканаць усе работы, мусіць знаць нашто ўсё гэта робіцца.

Усе гэтак званыя пасьлясеўныя работы маюць тры галоўныя заданьні: 1. праветрываньне грунту і дапушчэньне ў зямлю сьвежага паветра, 2. барацьба з недастаткам або з надбыткам вогкасьці (засуха або сырасьць) ў глебе, 3. барацьба з пустазельлем. — Земляроб павінен у гэтым часе так і выконываць усе гэтыя працы, каб яны адпавядалі сваім галоўным заданьням ды каб аблягчалі расьліне ейнае разьвіцьцё.

На лёгкіх пескаватых грунтох земляроб ня мае шмат працы пры праветрываньні грунтоў, бо яны й так лёгка правеўныя. Гэтыя грунты звычайна блізу ніколі не пакрываюцца на паверхні скарынкай і паветра ў іх можа свабодна праходзіць кругом.

Затое гэтыя пескаватыя грунты маюць звычайна за мала вады і земляроб павінен дбаць каб сваей працай гэткую глебу толькі яшчэ далей не перасушываць. Кожнае скароджаньне, ці лепш кожнае ўзварушэньне зямлі памагае вогкасьці выпароўвацца з грунту, а гэтым самым высыхаць у тым пласьце, які пры абрабляньні ўзварушваецца. Дзеля гэтага на лёгкіх землях трэба як найменш узварушаваць грунт, а калі ўжо такое ўзварушваньне трэба канешна рабіць з іншых прычын (барацьба з пустазельлем і інш.), дык

hetulki-ž pracentaŭ ahulnaj ličby pracadzion. Taksama karajecca nieakuratnaść siabraŭ arcieli pry pracy. Kara byvaje roznaj: vyhavar, zdyjmańnie pracadzion, pieramiaščeńnie da horšaj pracy, a ŭrešcie i vyłučeńniem z arcieli. Tych-ža, kamu dakažacca, što sumyśla psavaŭ arcielnuju (kałhasnuju) majemaść,sroha karaje sud jak sabatažnikaŭ.

8. **Kiravańnie kooperatyvy.** Najvyšejšaj uładaj kooperatyvy jość ahulny schod, pravamocnaść jakoha vyhladaje hetak:

a) vybiraje staršyniu kooperatyvy, upravu i nahladnuju radu, vybar jakich paćviardžaje Akružnaja Rada (saviet);

b) zaćviardžaje hadavy plan vytvorčaści, preliminar dachodaŭ i vydatkaŭ, budaŭlany plan, pracoŭnyja normy i ich aceńvańnie ŭ pracadnioch, umovu z MTS (mašyna-traktarnaj stancyjaj), hadavuju spravazdaču Upravy paćvierdžanuju Nahladnaj Radaj, raźmier roznych fondaŭ, kolki praduktaŭ i hrošaŭ pradbačycca na padzieł za adpracavanyja pracadni. Pastanovy vynosiacca zvyčajnaj bolšaściu hałasoŭ prysutnych. Ale pry vybary staršyni kooperatyvy, upravy, pry vyklučeńni siabry i pry ŭstanaŭleńni vyšyni roznych fondaŭ patrebna prysutnaść dźviuch tracin usich siabraŭ.

Usimi spravami kooperatyvy kiruje Uprava, składzienaja z 5—9 siabraŭ i vybiranaja na dva hady.

Heta hruby narys taho ideału, jaki sabie zarysavali savieckija ŭstavadaŭcy. U im złučany dva na pahlad roznyja pryncypy — kooperatyŭna-socyjalistyčny i pryvatna-ŭłaśnicki. Paviazany hetyja pryncypy tak, kab pry biezzahannym funkcyjavańni pradbačanaha ładu interas pryvatna-ŭłaśnicki słužyŭ u poŭni intaresu ahulnamu. U imknieńni da haspadarskaj roŭnaści (ci jana mahčymaja? — tłum.) statut arcieli pradbačyć dva važnyja fakty: 1. za adnolkavuju pracu adnolkavaja zapłata i 2. siabram arcieli (kolektyvu) moža być nia tolki haspadar, jak hałava siamji, ale kožny mužčyna, jaki končyŭ 16 hadoŭ svajho žyćcia. Asobny addzieł hetaha samaha statutu pradbačyć

работу такую трэба выконываць снасьцю лёгкай і толькі ў самым верхнім тонкім пласьце. Ды й барацьба з пустазельлем на лёгкіх грунтох не насувае шмат хлапотаў, бо само пустазельле звычайна ня дужа ахвотна кідаецца на гэткія грунты.

Інакш усе гэтыя справы прадстаўляюцца на грунтох цяжкіх, гляістых або чарназёмных. Глінястыя або чарназёмныя грунты звычайна пасьля кожнага сільнейшага даждджу засклепліваюцца і іх трэба часьцей узварушываць, каб пазволіць на скорае кружэньне ў зямлі паветра.

Глінястыя й іншыя цяжкія грунты лепш затрымліваюць вогкасьць, чым грунты лёгкія пескаватыя і тут няма ўжо такога страху, што яны пры розных працах перасушацца. Затое на іх хутчэй кідаецца пустазельле (сьвірэпка, асот, лебяда і інш.), буйней на іх расьце і земляроб мае з імі больш працы.

Калі цяпер знаем чаму выконваем розныя пасьлясеўныя работы і як супроць іх захоўвуюцца розныя грунты, можам цяпер затрымаецца над тым, калі гэтыя работы каля бульбы выконываць і як.

Скародзіцца бульба тады, калі ўжо абыйдзе. Калі прад тым аднак выпадзе вялікі дождж і прыб'е зямлю, а гэтым самым прыпыніць вольны абарот паветра ў глебе ды ўзмоцніць выпароўваньне з зямлі вогкасьці, дык трэба поле такое збаранаваць раней. На гэта трэба зьвяртаць увагу галоўным чынам на грунтох цяжкіх, бо яны хутка пакрываюцца скарынкай (засклепляюцца).

Баранаваць поле засаджанае бульбай можна прад тым, пакуль бульба абыйдзе. Калі-ж бульба ўжо абыйшла і поле хочам збаранаваць, дык лепш рабіць гэта ў дзень, а ня раніцай, бо трэба каб маладая расьлінка пасьпела выпарыць з сябе крыху вады. Тады такая расьлінка бывае крыху вялай, не такой пруткай і пры баранаваньні ня ломіцца.

Калі баруемо бульбу, якая была пасаджана ў радкі і ўжо абыйшла, дык найлепш баранаваць упоперак радкоў, каб часам адным зубам бараны ня зьнішчыць цэлага радка.

Сёлета даволі суха, бо мала дажджоў, а гэтым самым у зямлі мала вады. Дзеля гэтага трэба быць дужа асьцярожным, каб не перасушываць і так сухога грунту...

Аб абoрываньні й іншых пасьлясеўных работах каля бульбы напішу наступным разам.

*„Сіль. Гос.„* **Інж. А. Адамчук.**

## Ад жарабяці да каня. (2)

Кірунак гадоўлі кожнай жывёлы можа быць або племны або ўжытковы. Таксама і з гадоўляй каня.

Калі жарабё хочам выгадаваць на плем, дык перадусім трэба дагледзіць, каб яно было зусім здаровае, бо толькі такая жывёла можа зрадзіць здаровае і жыцьцяздатнае патомства. Адным з найважнейшых мамэнтаў пры даглядзе племных жарабят ёсьць своечаснае выкарыстываньне плоцевага гону ў племнага жарабяці. Уся справа ў тым, што плоцевае дасьпяваньне жарабяці прыходзіць значна раней, чым дасьпяваньне фізычнае. Проста кажучы, маладая жаробка далёка раней можа заплодніцца, чым ей на гэта пазваляе ейны арганізм. Практыка-ж паказвае, што зарана заплодненае жарабё астаецца на ўсё жыцьцё недаразьвітым, слабасільным. Дзеля гэтага ў інтарэсе самага гадаўца ёсьць не дапускаць празначанай на плем жаробкі да запладненьня датуль, пакуль яна сама

patrebu i mahčymaść uciahańnia ŭ hramadzkuju pracu žanoctva.

Zaviadzieńnie novaha ładu ŭ savieckim sajuzie ŭzdryhnuła da žyvoha ŭsim arhanizmam tamašniaha hramadztva. Ale inačaj i być nie mahło — usialakaja pieramiena vymahaje achviar. A tym bolš takaja, jak zavodžańnie kolektyvaŭ, jakija nia mieli nihdzie prykładaŭ i ŭsio zdabyvali ciažkimi i achviarnymi probami. Da taho-ž uvieś hety praces pierabudovy adbyvaŭsia ŭ umovach masavaści i kulturnaj adstałaści, što taksama było — i jość — vialikaj pieraškodaj. Nie zvažajučy na ŭsio heta adnak treba pryznać, što sutnaść pravodžanaj reformy jość socyjalna spraviadlivaj i konsekventna socyjalistyčnaj.

Hetak pradstaŭlajecca ŭ vačču českaha kooperatara-socyjalista taja vialikaja reforma haspadarča-hramadzkaha ładu, jakaja ciapier adbyvajecca na ŭschod ad Ryžskaj miažy i na biełaruskich ziemlach. — Nia viedajem bližej, jak heta reforma vyhladaje ŭ zastasavańni da žyćciovych varunkaŭ. Što heta reforma mahła dać dobryja — dapuścim — rezultaty na ziemlach etnohrafična-rasiejskich, heta jšče nia dokaz, što takija-ž rezultaty jana musiła dać i na ziemlach biełaruskich, katoryja nas tut pierad usim cikaviać. Ziemli, a lepš skazać narod rasiejski ŭ padśviedamaści svajej nia byŭ na hetulki źviazany z pryvatnym uładańniem ziamli, jak narod biełaruski. Na praciahu historyi ŭ Rasiei isnavaŭ „mir“ (supolnaje ŭładańnie ziamloj), čaho ŭ Biełarusaŭ nia było. A značyć, zavadžeńnie kalektyŭnych arcielaŭ (kałhasaŭ) u Biełarusi nia mieła i nia maje padstavy histaryčnaj. Ab tym ža, ci jość da hetkaha kroku padstava faktyčnaja siahońnia, mahła-b pierakanać nas tolki statystyka: jaki pracent siahońniašnich kałhaśnikaŭ jość sapraŭdy kałhaśnikami-kooperatarami, a značyć — kałhaśnikami-dabravolcami, jak heta pradbačyć razhladany nami statut? Ale hetaj statystyki my siańnia nia majem.



поўнасьцю не разаўецца фізычна, ці йнакш кажучы — пакуль зусім ня вырасьце.

У якім-ж веку можна лічыць жарабё фізычна вырасшым, дасьпелым?

Ня роўна. Коні гатункаў цёплакроўных (лёгкія), напр. арабы, дасьпяваюць пазьней, чымся коні гатункаў зімнакроўных (цяжкіх), напр. коні бэльгійскія, якія дасьпяваюць раней. Розьніца паміж аднымі й другімі прыблізна адзін год: жарабяты расаў цёплакроўных дасьпяваюць фізычна па скончаным чацьвертым годзе, жарабяты-ж расаў зімнакроўных дасьпяваюць ужо па скончаным трэцім годзе. У гэту толькі пару і можна іх прыпускаць да запладненьня, не раней. Інакш, – з жарабяці такога ніколі ня будзе поўнавартаснага каня.

Дзеля таго, што рух жарабяці на вольным паветры, а тымбольш на пасьбішчы ёсьць вельмі важнай, а нават канешнай успамогай пры гадоўлі, трэба самае жарабеньне датарноўваць да раньняй вясны, калі зьяўляецца першая трава. У нашых варунках гэта канец м-ца красавіка — пачатак траўня (мая). А дзеля гэтага прыпускаць кабылу да жарабца найлепш у першай палове м-ца траўня.

Незалежна ад таго, у якім кірунку гадуецца жарабя, для здароўя ягонага патрэбны рух, патрэбна праца. Да працы аднак можна і трэба ставіць жарабя толькі тады, калі яно ўжо фізычна дасьпела. А пасьля — не адразу ставіць такое жарабя да кожнай працы, а толькі паступова. У добрага гаспадара на жарабя ня можна раней надзець упражы, чым калі такому жарабяці міне **два з паловай гады!** Ды й то надзяецца спачатку толькі хамут з шляёй і прыпрагаецца (без пастронку), каб навучыўся хадзіць вобак каня старога. Пасьля месячнага хаджэньня жарабяці ў гэткай прыпрэжцы, можна яго ўжо прыпрагаць у барану, або і ў калёсы па сухой добрай дарозе, але заўсяды **побач з старым канём**. Самое жарабя ў адзіночку можна ўпрагаць толькі тады, калі яно кончыць тры гады веку. Пры ўсей гэтай навуцы трэба высьцерагацца непатрэбнага крыку і ні ў якім выпадку не стасаваць біцься. Да панукaньня да працы павінна быць досыць людзкога голасу, і ў патрэбе—смарганьня ляйчыной.

*Корм і дагляд каня.*

Пры кармленьні каня трэба мець на ўвазе асаблівую будову ягонага трыбуха. У параўнаньні з рэштай фігуры каня, ягоны трыбух вельмі малы і так устроены, што ня можа адчыняцца наперад — конь ня можа ніколі рыгаць. Дзеля гэтага, каб не дапусьціць да разарваньня конскага трыбуха, яго ня можна за раз перапаўняць пашай. Дзяліць трэба порцыю на колькі частак. Авёс гэта конская сіла, але ён трудна стравімы. Дзеля гэтага на ператраўленьне і выкарыстаньне аўса трэба заўсяды мець досыць часу. Другой уласьцівасьцяй аўса ёсьць тое, што яго самога, бяз сечкі, конь ня можа стравіць і выкідае нявыкарыстаны з калам. Дзеля гэтага, каб конь мог досыць прасьлініць авёс і ператравіць, да яго трэба заўсяды дамешываць сечкі: на дзьве меркі аўса адну мерку (на вагу) сечкі. Паіць каня трэба заўсяды перад кормам. Але і тут трэба высьцерагацца, каб не напаіць каня раней як цераз 2 гадзіны пасьля скончанай працы. Калі конь у працы ня быў сагрэты, дык можна яго паіць ужо цераз гадзіну. Калі-б прышлося паіць каня падчас працы, дык трэба пасьля напаеньня сагрэць трэба каня скорай працай ў працягу 10—15 мін. Інакш можна каня ахваціць.

Што да дагляду каня, дык апрача чыстага ўтрыманьня ўсёй скуры, трэба пільную ўвагу зьвярнуць на здаровае і чыстае ўтрыманьне ног, асабліва капыта, які трэба **штодзень ачышчаць** і вымываць. Ад 6-цёх месяцаў трэба капыт жарабяці стала мець на ўвазе, адпаведна яго абрэзваць і формаваць. У дасьпелага каня трэба зьмяняць каваньне што 6—8 тыдняў. Аб купаньні каня можна наагул сказаць, што рэч гэта добрая, але купаць можна не часьцей як двойчы ў тыдзень. Найлепшай парой купаньня каня ёсьць раніца (да гадз. 9) і вечар. Ня можна купаць каня: 1. моцна сагрэтага, 2. калі вада лішне сьцюдзёная (менш 17°Ц), 3. раней як цераз гадзіну пасьля накармленьня аўсом і 4. калі сонца моцна грэе.

Урэшце важная ўвага для тых, хто гадуе коняў на продаж для войска (рэмонт). Гэткі конь мусіць: 1. мець добры капыт, 2. ніколі ня быць путаным, 3. прад скончанымі трыма гадамі ніколі ня быць запраганым у адзіночку, 4. мець нястрыжаную грыву і хвост.

Падрабязныя варункі куплі коняў для войска падаюцца заўсяды ў абвестках. Заўсяды аднак трэба ставіцца з такім канём прынамся за тры гадзіны перад пачаткам торгу, каб конь меў час адпачынуць. Прад тым-жа трэба такога каня навучыць добра хадзіць і бегчы за чалавекам на абрыці. Да гэтага трэба мець з сабой моцны кантар, дзьве вяроўкі і ўсе патрэбныя дакумэнты.

**А. К.**

*ЗЕМЛЯРОБЕ!*

*Усякае пустазельле, а перад усім сьвірэпка, пырнік, лебяда, асот — гэта Твае ворагі. Нішчыць іх трэба заўзята і стала!*

# Аб адказнасьці пры куплі-продажы хатняй жывёлы.

Як ні сумна, але трэба прызнаць, што пры гандлі-замене гаспадарскай жывёлай усялякія ашуканствы здараюцца вельмі часта. Ахвярай-жа гэтых ашуканстваў блізу заўсяды зьяўляецца земляроб-гаспадар: раз дзеля таго, што ён заўсяды мае больш чэснасьці, чым прафэсыянальны перакупшчык, а йшчэ найважней — дзеля таго, што ня ведае законаў, каторымі рэгулюецца самая купля-продаж. Аб гэтых законных пастанаўленьнях мы тут і пагаворым.

Бяз увагі на тое, ці мы жывёлу купляем ці прадаём, трэба ўстанавіць наўперад асобу, з якой пачынаем гандлёвую опэрацыю і ейнае ўласьніцкае права да прадаванай жывёлы. Бо ведаем, якая таўкучка і неразьбярыха бывае часта на рынку каля прадаванай жывёлы: уласьнік часта стаіць зусім на баку, а за яго ўсё робяць розныя падасланыя „фактары". Рэзультат-жа такой абмылкі бывае такі, што прапускаем законны срок заскаржаньня нясумленнага прадаўца ў суд— і астаёмся кругом у страце.

Вот-жа дзеля гэтага трэба ведаць насамперш, хто дадзеную жывёлу прадае. Калі гэтай асобы асабіста ня знаем, дык няма ніякага страху ані сораму запытацца ў яе пашпарту, вайсковай кніжкі, або каб прынамся ягоную асобу пацьвердзілі два сьведкі. Дальшай справай ёсьць праверка на падставе пашпарту права ўласнасьці гэтай асобы да прадаванай жывёлы. Усё гэта трэба ня толькі „даведацца", але і запісаць сабе на картачцы: імя, прозьвішча, скуль, нумар і дата дакуманту і кім ён выдадзены.

Нашто ўсё гэта патрэбна!

Усё гэта робіцца на тое, каб у разе патрэбы магчы аперціся на закон. Справа ў тым, што прадавец, паводле закону, ручае купляючаму, што прадаваная жывёла ёсьць здатнай да ўжытку і ня мае ўтоеных хвароб ці недастаткаў. І калі гэткая здатнасьць, а тымбольш здароўе прадаванай жывёлы акажацца непраўдзівай, дык прадавец павінен вярнуць пакупцу заплачаныя грошы і прыняць жывёлу назад.

Але каб гэта сталася, трэба споўніць прадбачаныя законам вымаганьні. Закон-жа бароніць пакупца ў працягу толькі дакладна азначанага часу, залежна ад таго, які недастатак у жывёлы акажыцца. Гэты час парукі дзеліцца на дзьве часьці. Адна з іх залежная ад адкрытага недастатку, бывае раз даўжэйшая, напр. пры сухотах, іншы раз карацейшая (месячная сьлепата ў каня) і называецца **эвікцыяй**. Эвікцыю ўстанаўляе закон з дня 25.VI.1934 г. (D.U. R.P., poz. 505), гэткім парадкам:

**у коняў:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. дыхавічнасьць | 14 | дзён |
| 2. лыкавасьць | 14 | „ |
| 3. насацізна (сап) | 21 | „ |
| 4. месячная сьлепата | 14 | дзён |
| 5. колер | 14 | „ |

**у скаціны:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. сухоты | 21 | дзень |
| 2. пошасьць лёгачная | 28 | „ |

**у сьвіней:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. памор або чума | 10 | дзён |
| 2. чырвонка | 3 | „ |
| 3. вiраватасьць | 14 | „ |

Апрача часу эвікцыі, закон устанаўляе йшчэ дальшыя сталыя для кожнай хваробы 6 тыдняў часу. Знача паводле закону той, хто купляе напр. каня, які ў працягу трох тыдняў акажыцца дыхавічным, мае права жадаць звароту грошаў, бо час эвікцыі для дыхавічнага каня 2 тыдні, а да гэтага йшчэ даходзяць 6 тыдняў сталае парукі, разам 8 тыдняў. — Падобна можна вырахаваць час парукі для іншых хвароб і іншай жывёлы.

Але гэта йшчэ ня ўсё. Як толькі акажыцца ў навабытай жывёлы якаясь прадбачаная законам хвароба, уласьнік абавязаны зараз-жа яе належна распазнаць і ў працягу найдалей **аднаго тыдня** (ад часу аб'яўленьня хваробы) паведаміць аб гэтым прадаўца, жадаючы ад яго нагароды стратаў, а то і цэлай заплачанай цаны. Рабіць гэта найлепш заказным пісьмом, або вусна ў прысутнасьці двух сьведкаў. Калі прадавец не згаджаецца, трэба каб жывёлу абгледзіў лекар-вэтэрынар і выдаў аб гэтым адпаведнае пасьведчаньне. Калі лекар сьцьвердзіць хваробу **паваротную**, гэта значыць, што яна ўжо была, тады — не аддаючы пасьведчаньня — можна йшчэ раз жадаць ад прадаўца звароту. А як і гэта не паможа, тады астаецца адна дарога — суд, калі не прамінуў на гэта раней названы срок (эвікцыя плюс 6 тыдняў). Скаргу ў суд можна падаваць праз адваката (каму на гэта пазваляе кішэнь), або можна дамагацца, каб суд сьпісаў скаргу сам з слоў пашкадаванага жалабца. У гэтым апошнім выпадку найлепш прасіць самага судзьдзю.

Пры ўсей гэтай процэдуры датрыманьне сроку ёсьць справай вельмі важнай. Пакрыўджаны пры гэтым мусіць аднак ведаць, што ягонае права да эвікцыі ня мінае, калі прадавец подступам затаіў прад ім хваробу прадаванай жывёлы, або калі пакупец ня ведае, дзе жыве прадавец. Аднак подступ даказаць ня лёгка, таму трэба захоўваць усе прадпісаньні срокаў.

Урэшце што да замены жывёлы. І тут закон эвікцыі мае застасаваньне. Як агульнае правіла пры гэтым трэба памятаць, каб пры заменнай умове вартасьць кожнай заменнай штукі была азначана ў грошах і — у сягоньняшніх умовах — у польскай валюце, з. зн. ў злотых. У ўсякім блізу выпадку лепшым бывае мірны дагавор чым працэс судовы.

Ю. З.

# Як нішчыць моль.

У канцы м-ца красавіка звычайна апошні раз носім сваю зімовую вопратку. У траўні прыгатаўляем яе на трывалае перахаваньне праз лета. Гэта пэўна-ж ня знача, што мы павесім яе ў шафу ці ў камору без належнага прыгатаваньня, не хлапоцячыся аб тым, у якім стане знойдзем яе ўвосені, калі будзем яе ўзноў патрабаваць. У змаганьні з молямі гаспадыня мусіць пастулаць сыстэматычна, бо молі могуць зьнішчыць ня толькі адзежу, але й дываны, пакрыўкі, канапы а нават вайлак. Гаспадыня мусіць ведаць, калі пагражае небясьпека ад моляў і як ей перашкодзіць. Звычайна-ж гаспадыня, ня ведаючы спосабу жыцьця моляў, пачынае змагацца з імі за позна, калі сьляды па іх можна заўважыць ужо голым вокам.

Вопратку і кажух (футра) прагрызае моль кажушная (Tinea pellionella), каторая, таксама як і моль збажжовая, ляціць увечары на ўсякае ў хаце сьвятло. Проста на сьвятло аднак не ляціць, але над ім і каля яго. Найчасьцей бачым моль у цёмных кутох. Іхнай адзінай задачай ёсьць класьці яйкі, з каторых выклюваюцца спачатку гусеньніцы (рабачкі), а пасьля малыя матылькі — молі. Самкі пасьля некалькіх гадзін кладуць яечкі й жывуць звычайна каля двух тыдняў. Кожная самка кладзе агулам каля 100—300 яечак. Як толькі перастане класьці яечкі, жыве найбольш два дні. З яечак выклюнуцца гусеньніцы пры цёплай пагодзе ўжо за 4—8 дзён. Пры сьцюдзёнай пагодзе гэткае выклюваньне трывае аж тры тыдні. Толькі ў гэту пару рабачкі молі бываюць сапраўды шкоднымі. У гэту пару яны прагрызаюць увакруг сябе валокны тканін, а іх дасьпяваньне трывае колькі месяцаў, а нават і гадоў. Як толькі рабачкі молі завіюцца ў куклу, выйдзе з іх матыль звычайна за 10—30 дзён. Але й гэта закукленьне можа трываць таксама аж 12 месяцаў — у гэтым часе яны небясьпекі не прадстаўляюць.

Рабачкі молі жыруюць выключна на матэрыялах, якія паходзяць ад жывёлы, як валасьсё, шэрсьць, воўна, пер'е і ўсякія з іх вырабы. Дасьпелыя молі (матылі) нічога не ядуць, але нішчыць іх трэба дзеля таго, што самка кладзе яечкі. На тканіны расьлінныя молі не нападаюць. Дзеля таго палатно, тканіны баваўняныя і паперу можна ўжываць дзеля завіваньня ў іх суконных тканінаў, на каторыя молі нападаюць.

Ня можна дакладна азначыць пару, калі молі найбольш нападаюць А гэта дзеля тато, што час ад складаньня яечак да выклюваньня матыля ёсьць вельмі неаднолькавы і ўзалежнены ад цяпліні, цемнаты і вогкасьці. Найчасьцей аднак можам рахавацца з гэткай магчымасьцю: з яечак накладзеных у м-цы жніўні могуць выклюнуцца матылі ў м-цы красавіку, траўні, чэрвені і ліпні наступнага году. Дзеля гэтага трэба быць стала на старожы. Ваўняныя прадметы трэба выносіць на сьвятло, выбіваць, вытрэпываць, шчаткаваць. Усялякія крамныя парашкі проці моляў могуць іх, праўда, крыху прытрымаць у разьвіцьці, але цалком на іх спалягацца ніколі ня можна.

У м-цы траўні, калі здыймаем суконную вопратку, не шкадуймо найбольшых трудоў, каб яе добра ўлажыць. З вопраткі такой трэба перадусім выбраць усе плямы, што можна мыць — вымыйма, або дайма гэта вычысьціць у пральню хэмічную. Вычышчаную адзежу разьвесім на сьвятле, на вольным прасторы і пасьля добра схавайма. Гэтак дагледжаную вопратку можна перахоўваць у каморы, у шафе, прад тым увярцеўшы яе у палатняныя мяшкі, высьцеленыя ўсярэдзіне йшчэ паперай. Футры трэба час ад часу выбраць, прасушыць на сонцы, вытрапаць, вышчаткаваць. Палатняныя ці баваўняныя чахлы на канапах і мяккіх сукном абабітых крэслах звычайна можна лічыць добрымі абаронцамі ня толькі ад пылу, але і ад моляў. Ня любяць молі таксама мясцоў запыленых.

*„Zem. Jed."*

# Узноў гілі.

Штогод пісала „Самапомач" аб гілёх, пішам аб іх і сёлета. Бо й сялетняя вясна, а за ей і лета прывядзе напэўна хмары гэтых бязкарных шкоднікаў. Адкажам сабе на пытаньні: 1. чым гілі шкодзяць?, 2. як жывуць і размнажаюцца? і 3. як іх нішчыць? Разьбіраем папарадку:

Шкодзяць гілі тым, што непакояць жывёлу, недаючы ей належна накарміцца. А як такая жывёла досыць не накорміцца, дык і прадукцыя ейная (малочная, мясная, працоўная) будзе малая. Другая шкода ад гілёў у тым, што яны, дзюравяць скуру і гэтым самым памяншаюць ейную таварную вартасьць.

Хто павярхоўна толькі прыглядаецца да гілёвага спосабу жыцьця, таму можа здацца, што вугры на жывёле паўстаюць зараз-жа, або прынамся хутка пасьля таго, як дарослы гіль зложа на скуры свае яечкі. Вот-жа так проста ня ёсьць. Пакуль з малога яечка выклюнецца гіль, дык ён пройдзе праз увесь арганізм жывёлы і добра яе перамуча. І так: Дасьпелы гіль складае свае яечкі не абы куды папала, а толькі там, дзе ён сам знаходзіць сабе спажыву — кроў. Хочачы дабіцца да крыві, гіль мусіць пракалоць жывёліну скуру і дзеля таго ён садзіцца на такія мясцы, дзе скура бывае найцянейшая, перадусім на пахвіны. Кладучы яйкі гіль выдзяляе то-ж асаблівую плыўкасьць (яд), каторая жывёліне сьвярбіць і яна дзеля таго такія мясцы зьлізывае сваім шурпатым языком. Зьлізаныя яечкі гіля дастаюцца пасьля гэтага ў нутро жывёлы, дзе загнежджываюцца і дасьпяваюць. Трывае гэта блізу год часу, пасьля

*PČALARSTVA*

# Prad rojkaj pčoł.

Miesiac červień — heta miesiac asabliva važny ŭ pčalarskaj haspadarcy. Matka pčalinaja ciapier najbolš składaje ječak, na't da ličby 5000 ŭ dzień. Žjaŭlajucca ŭžo trutni ŭ bolšaj kolkaści i novyja matačniki ŭ vulli—pradvieśniki niedalokaj rojki. Jak užo ja pisaŭ ŭ papiarednich numaroch „Samapomačy", što cely sakret dachodnasci z pčalnika lažyć u tym, kab davieści na miesiac červień usie pni da najbolšaj siły i hetuju masu pčoł vykarystać da zboru miodu ŭ časie hałoŭnaha ŭziatku.

Ale moža stacca niespadzieŭka pry niaŭmiełaj haspadarcy: silnyja pčoły pačnuć hvałtoŭna raicca i to niekalki razoŭ. Niekatoryja bortniki rady hladzieć na rajeńnie pčołaŭ i navat ceniać svaju haspadarku pavodle liku maładych rajoŭ. Adnak dzie mnoha šumu ŭ pčalniku ad častaj rojki, tam miodu niamašaka. Heta jość niaźbitaja praŭda: **u vulli, u katorym pčoły rojacca, abo rychtujucca da rojki, nia budzie miodu.** Dziela taho bortnik pavinien nie dapuščać da rajeńnia, a tak-ža i da padhatoŭki. Prybliżeńnie rojki zdradžajecca tym, što pčoły zahadzia ŭžo rychtujucca pakinuć vulej i dziela taho nie pracujuć enerhična, a celymi kučami siadziać u dzień na vulli abo pad vullom... a paśla skaržacca bortniki, što „ŭ pčalniku było ad pčołaŭ „čorna", a miodu nia šmat, abo ani kapli".

Čamu pčoły rojacca?

Ab hetym viedama, što hetak zvanaja rojka „naturalnaja" nia isnuje. Rojacca-ž pčoły kali:

1) niama miesca da narmalnaha raźvićcia siamji i mahazynavańnia miodu;

2) drennaja ventylacyja, a ŭ vulli panuje duchata tak, što pčoły nia mohuć pracavać, kab nie sarvać plastraŭ;

3) spoźnicca bortnik pastavić mahazyny, a pčoły ŭžo załožać bolš matačnikaŭ i žjaviacca celyja masy trutniaŭ. Dziela taho bortnik pavinien pilna sačyć raźvićcio pnia i ŭ čas (kala 20 červienia ŭ našaj praktycy) pastavić mahazyny. Prad pastaŭleńniem mahazynaŭ treba abhledzić hniazdo i ŭsie matačniki pavyrezvać, tak-ža čer trutniavy, ustaŭlajučy ŭ heta miesca pčalinyja kavałki plastraŭ;

4) bortnik za šmat budzie praškadžać pčołam u pracy. Pa nastaŭleńni mahazynaŭ pčoły enerhična pačynajuć pracavać i hinuć usie „borady", jakija dahetul visieli prad lotkami. Kali-b pčoły, pamima taho, što pastaŭleny mahazyny, vyrailisia: treba acanić tak: a) ranny roj z pieršaj pałaviny červienia možna asadzić u novy vulej, b) paźniejšy zahnać nazad, kasujučy pierad hetym usie matačniki ŭ hniaździe. Pa dvuch mienš-bolš tydniach ad času pastaŭleńnia mahazynaŭ treba ich ahledzić z vierchu, nie praškadžajučy pčołam ŭ narmalnaj pracy i kali buduć siarednija ramki ŭ mahazynie poŭnyja miodu i pašytyja voskam, nieadkładna zdymajem mahazyn, aparožnivajem na miadahoncy i hetaha-ž dnia stavim nazad na vulej.

Pry hetym treba pamiatać, što strata adnaho dnia pry dobraj pahodzie i miodnaści raŭniajecca 7 klh. miodu.

Taksama treba ahraničać pradukcyju vosku pčołami, staviačy dzie treba novyja ramki z vuzoju. Pčoły na vypradukavańnie 1 klh. vosku patrabujuć mienš-bolš kala 32 klh. miodu. Heta vydajecca paradoksam, ale tak jość. Kali vosk tak vialikuju maje vartaść, dyk u časie sezonu bortnik pavinien nie zmarnavać ani adnej kryšynki vosku, źbirajučy jaho ŭ adumysłovyja pasudziny.

Da pašyreńnia pčalnika radžu mieć paru vulloŭ horšych, adnak nie staroj systemy, ŭ katorych možna było-b pravodzić haspadarku rojnuju, h. zn. pradukcyju rajoŭ. Z takoha pnia

---

чаго выклюнуты з яечка рабачок гіля пачынае адваротную дарогу, але ўжо не праз натуральныя выхады, а, дзюравячы ўсё па дарозе, прэцца проста ў кірунку хрыбта, бакоў і бруха жывёлы, дзе на некаторы час і загнежджываецца, творачы ведамыя кожнаму вугры. Урэшце і з гэтых вугроў вывальваецца, каб стацца дарослым гілём і далей вясьці сваю шкодную работу.

Гэтак гіль жыве. Адпаведна да гэтага трэба яго і нішчыць.

Як пачынаюцца цёплыя дні, у каторыя гілі дакучаюць жывёле, кожны вечар і раніцу трэба жывёлу да чыста выціраць вехцем саломы і „мяккія" мясцы скуры скрапліваць крэолінай, якой гілі ня любяць і на такое месца ня садзяцца. Замест крэоліны часам ужываюць адвару валоскага гарэху.

Далей, ня трымаць жывёлы ў гарачыя дні на пасьбішчы, а ў хляве. Хлеў-жа, калі мае быць вольным ад мух, мусіць быць дакладна вычышчаны, і выбелены вапнай. Хлявы-ж занятыя жывёлай нядойнай (цяляты, ялаўкі, скаціна працоўная і кормная) могуць акрамя таго быць скроплены той-жа крэолінай.

Урэшце, калі міма ўсіх стараньняў на скуры жывёлы ўсё-ж зьявяцца вугры, дык іх ня можна высьпеліваць, а трэба праколываць шылцам і — калі дадуцца — выціскаць. А калі такія вугравыя гузы йшчэ нясьпелыя й выціскацца не даюцца, дык іх пракалоўшы трэба заліваць ёднай тынктурай або сьпіртам. А. К.

Redaktar inž. A. KLIMOVIČ Vydaviec A. DASIUKIEVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1 — 2.

možna puścić nia bolš, jak 2 rai i to jak najraniejšyja, katoryja asadzić treba ŭ novyja vulli na vuzie. Roj pavinien być silny, vahi mienš.bolš 2—3 klh. Słabyja rai možna łučyć, adnak zaścierahaju, što heta treba rabić vielmi ŭmieła, inakš pčoły pačnuć ścinacca.

Ab techničnym baku pry rojcy dumaju, što nia treba pisać. Chacieŭ-by tolki źviarnuć uvahu, što kanieśna treba pry rojcy ŭbačyć matku, a kali jaje nia budzie, dyk dać zapasnuju, bo: 1. roj biaz matki ŭ vulli siadzieć nia budzie, 2. zhuba matki staroj—heta spynieńnie ŭsiej dziejnaści novaj siamji. Maładaja matka, jak viedama, patrabuje da 3 tydniaŭ času pakul zapłodnicca i pačnie čarvić. Usilenaja praca ŭ mižčasie asłabić vielmi siłu maładoha roju.

Na zakančeńnie jšče adno. Zdarajecca, što ŭ časie hałoŭnaha ŭziatku pčoły nie pracujuć, choć nektaru šmat na poli i mahazyn staić na vulli. Heta jość h. zv. stagnacyja (zatrymka) pčołaŭ, vielmi škodnaja ŭ miodadachodnaści. Pryčynaj jaje jość: 1) niedachop dalejšy miesca mima mahazynu, 2) padhatoŭka i rychtavańnie da rajeńnia. Pčalar, kali zaŭvažyć stagnacyju, pavinien nieadkładna na pastaŭleny mahazyn pastavić jašče adzin mahazyn (u Dadana Blatta), a kali hetaha rabić nia možna, dyk vyniać 4—5 ramak z miodam z hniazda i ŭstavić na heta miesca ramku z vuzoj i naładzić dobruju ventylacyju, kab pčołam nia było za horača. Pčoły achvotna pierachodziać u druhuju nadstaŭku i enerhična pracujuć, dajučy ŭ dvaja miodu.—Dla ilustracyi ŭspomniu z svajej praktyki ŭ 1935 hodzie. Vulej № 10 (Dadana) „hultaiŭ“ u pačatku hałoŭnaha ŭziatku, pamima taho, što stajała nadstaŭka (mahazyn). Dadziena była tady druhaja nadstaŭka i pčoły ŭ takim časie zrabili 2 nadstaŭki, dajučy akančalna 5 nadst., abo 85 klh. miodu. Dyk z hetaha ŭsiaho vyvady takija: **patrebny—jaknajbolšaja siła pčołaŭ, zadavalniajučy prastor mahazynu i hniazda, spynieńnie rojki da minimum (najmienš) i napružanaja praca bortnika pry dahladzie i aparožnivańni mahazynaŭ, kali tolki jany daśpiejuć da ačystki i staŭlańnie ich nieadkładna na vulej, pašana vosku.** Voś tajnica dachodu našaj pčalinaj haspadarki i jejnaja racyjanalnaść.

**Vacłaŭ Papucevič.**

## Jak asadzić roj.

Chłopat maje bortnik, kali pčoły ŭ vyrai asiaduć na niedastupnym miescy, na vysokich drevach, skul ich dastać ciažka, a časta navat prosta nie mahčyma. Vot-ža apišu moj sposab zamanivańnia rajoŭ, kab sieli tam, dzie ja chaču.

Ja biaru dźvie doški, z katorych kožnaja 30—40 cm. doŭhaja i 15 cm. šyrokaja. Hetyja doški źbivaju razam u formie streški. U spodzie pryleplivaju kusok vaščyny. Hetkuju strešku prymacoŭvaju drotam da vysokaj, nia zusim tonkaj tyčki i čakaju až pakul roj pačnie vychodzić. Kab roj nie nabiraŭ achvoty ŭciakać z pasieki, maju pryhatavanuju bočku vady i pompavuju sikaŭku. Vadoj starajusia ŭtrymać roj u hranicach pasieki.

Jak tolki zaŭvažu kudy bolš-mienš dumaje sieści roj, zaraz u toje miesca (u siaredzinu pčalinaj huščy) ŭstaŭlaju zaviešany na tyčcy raniej pryhatavany prystrešak z vaščynaj i pčoły achvotna na jaho siadajuć.

Kali roj uvieś asiadzie, tady jaho aściarožna spuskaju z tyčki, ustaŭlaju ŭ rajnicu i pierachoŭvuju jaho tam tak doŭha, jak mnie heta pakažacca patrebnym.—Z hetkaha-ž prystreška vielmi lohka pieravieści roj i ŭ vulej na stałaje prabyvańnie.

Radžu hety sposab vykarystać kožnamu. A kali chto prydumaje što jašče novaha, a tymbolš lepšaha, chaj taksama napiša ab hetym u „Samapomač“. **Š—k.**

## Jak baranicca ad napadu pčoł.

Pčoły napadajuć adny na druhich z roznych pryčyn. Baroniačysia ad hetaha treba pierš za ŭsio tak zvuzić lotku, kab praz jaje za raz mahli prajści adna, najbolš — dźvie pčaliny. Kali heta nie pamahaje, treba aściarožna abmačyć lotku niekalkimi kaplami karbolnaha kvasu, formaliny, abo ŭrešcie navat hazy. Kali-ž i heta nie pamahaje, a pčoły čužyja patrapili navat dastacca ŭsiaredzinu vulla, dyk napadzieny vulej treba zabrać z hetaha miesca, a zamiest jaho pastavić vulej pusty, z niekalkimi parožnymi ramkami.

Toj-ža vulej, katory treba było ad złandziejaŭ pryniać, adnosicca nanač najlepš u sklep i na druhi dzień stavicca na svajo miesca ŭznoŭ. Prad tym adnak treba dobra paznać, čamu na hety vulej napadajuć pčoły złandziei.

Pry ŭsim hetym nia možna ŭžyvać ani skroplivańnia vadoj, ani padkuryvańnia dymam, bo hetym advažnych złandziejaŭ nie adhonicie, a pčołam svaim pieraškodzicie baranicca.

**„Укр. Пас.“**

Ф. Мур—му: Нeяк усё-ж непраўдападобна, каб прычынай гэтага быў мароз. Скарэй за ўсё, што Вам гэна збожжа вымакла, або яно павыцягвалася ад чаргаваньня марозу з адлігай яшчэ ўзімку. На будучыню ад вымаканьня баранецеся спусканьнем лішняй вады, а ад выцягваньня з зямлі—прыціскаьнем гэтага збожжа ў раньнюю вясну гладкім валам і прыгнойваньнем паверсе азотняком ці салетрай.

М. Бу—ку: Ня думаем, каб так ужо ня можна было гэнага куска зэмлі ніяк выкарыстаць. Не канешна-ж гэта мусіць быць зямля ворнай: можна там здаецца было-б завесьці гадаваньне кашыкарскага лазьняку, ці хоць-бы пракапаць там сажалку і завесьці гадоўлю рыб, карпа ці карася. Для Вас хіба добры быў-бы гатунак кашыкарскай лазы амэрыканскай (**Salix americana**).

Ж. С—ха. Знайдзеце адказ на Ваша пытаньне аб молях у сяньняшнім нумары „Самапомачы.“

